

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 11 (598) 26 САКАВІКА 2003 г.

## Зварот

**Сакратарыята Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" з нагоды Дня абароны правоў спажыўца**

Таварыства беларускай мовы адзначае, што ў Беларусі парушаюцца правы спажыўцоў, якія штодня карыстаюцца дзяржаўнай беларускай мовай. Як айчынныя, так і замежныя таваравытворцы, за рэдкім выключэннем, не выкарыстоўваюць дзяржаўную беларускую мову. Практычна не сустракаюцца інструкцыі па карыстанні складанымі бытавымі прыборамі па-беларуску. Пераважная большасць пунктаў аказання паслугаў (крамы, службы быту, пункты аказання сэрвісных паслугаў) не змяшчаюць назваў і надпісаў на беларускай мове. Беларускамоўныя спажыўцы часта сутыкаюцца з непрыязным стаўленнем да роднага слова з боку супрацоўнікаў сферы абслугоўвання. У сувязі з пераводам на кампутарны ўлік камунальных службаў у гэтай сферы цалкам знікае беларуская мова. Тэлефонныя службы, аператары сотавай сувязі, пэйджынгавыя кампаніі не прадастаўляюць сэрвіснага абслугоўвання на беларускай мове. Беларускамоўныя спажыўцы часта сутыкаюцца з непрыязным стаўленнем да роднага слова з боку супрацоўнікаў сферы абслугоўвання. У сувязі з пераводам на кампутарны ўлік камунальных службаў у гэтай сферы цалкам знікае беларуская мова. Тэлефонныя службы, аператары сотавай сувязі, пэйджынгавыя кампаніі не прадастаўляюць сэрвіснага абслугоўвання на беларускай мове. На сённяшні дзень выкарыстанне беларускай мовы на спажывецкім рынку зведзена да мінімуму.

Таварыства беларускай мовы звяртаецца да:

• заканадаўчых органаў з прапановай унесці змены ў заканадаўства з мэтай забеспячэння правоў беларускамоўных спажыўцоў;

• Ураду Беларусі з заклікам прыняць нарматыўныя прававыя акты, якія абавязалі б, як беларускіх, так і замежных таваравытворцаў, тавары якіх маюць абарачэнне ў Рэспубліцы Беларусь, змяшчаць на ўпакоўках інфармацыю на беларускай мове;

• Дзяржстандарта Рэспублікі Беларусь з прапановай распрацаваць новыя стандарты для таваравытворцаў, якія абавязвалі бы змяшчаць на таварах інфармацыю па-беларуску, а вытворцам складанай бытавой тэхнікі рабіць інструкцыі для карыстальнікаў, у тым ліку і на беларускай мове;

Звяртаемся і да беларускіх спажыўцоў незалежна ад таго, носьбітамі якой мовы яны з'яўляюцца, аддаваць перавагу таварам, якія маюць азадбленне на беларускай мове. Павага з боку таваравытворцы да роднай мовы карэннага насельніцтва краіны – гэта, перш з усё, павага да вас, паважаныя спажыўцы!

**Сакратарыят ТБМ** **13 сакавіка 2003 г.**




### Ахвяраванні на ТБМ

1. Кажан Віталь – 25 дол.
2. Верабей Кастусь- 20 дол.
3. Казлоўская І. – 1200 р., г. Менск
4. Суполка "Рэфармацыя" – 20 дол., г. Менск
5. Навікаў Уладзімір – 2000 р., г. Слуцк
6. Коваль – 550 р., г. Менск
7. Сафро Марыя – 5000 р., Масква
8. Шкірманкоў Фелікс – 5000 р., г. Слаўгарад
9. Надзея Барт-Юрэвіч – 50 дол., Германія
10. Палсцюк Валеры – 5000 р., г. Менск
11. Удзельнікі маршу "За лепшае жыццё"-- 20000 р., г. Менск
12. Ласка Таццяна – 2000 р., г. Заслаўе
13. Масалкоў – 2000 р., г. Віцебск
14. Шкірманкоў Ф. - 5000 р., г. Слаўгарад

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічваць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

## Да 25 сакавіка з Канады

Абвешчаньне АКТАМ 25 САКАВІКА дзяржаўнае незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі мае для нас калясальнае значэньне:

1.Актам 25 сакавіка беларускі народ задакумэнтаваў й заявіў сьвету сваю волю быць гаспадаром у сваім собскім краі. І гэтым запачткаваў у беларускім адраджэнцкім руху новы незалежніцкі этап.

2. З Актам 25 сакавіка мусілі лічыцца й бальшавікі, калі ў 1919 годзе мусілі стварыць на мейсцы БНР, хай сабе й фікцыйную, БССР. Каб ня было БНР, ня было бы й БССР, а была бы толькі паўночна-заходняя вобласьць РСФСР.

3. Каб ня было БНР, ня было бы й прадстаўніцтва Беларусі ў Задзіночаных Нацыях.

4. Каб ня было БНР, кансэквэнтна, ня было бы й Рэспублікі Беларусь.

Сяньня 85 год пазьней ізноў над Беларусяй-Рэспублікай Беларусь – павісла пагроза страты яе сувэрэннасьці. Захаваць незалежнасьць РБ можа толькі сам беларускі народ. Наймацнейшай нашай зброяй абароны перад зьнішчэньнем РБ, як апрычонае эўрапейскае дзяржавы, ёсьць наш беларускі нацыянальны дух, нашая калектыўная воля быць гаспадаром у сваім собскім краі. І мы верым у сілу нашай духоўнай зброі, верым у сілу нашае калектыўнае волі мець сваю незалежную беларускую дзяржаву. Верым, што абаронім Беларусь перад захопам яе ізноў Расеяй. У гэтым памагай нам, Божа!

Жадаем вам усім добрага – фізычнага й духовага – здароўя, шчасьця й спору ў працы.

ЖЫВЕ ВОЛЬНАЯ І НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ!
За Кіраўніцтва Каардынацыйнага
Камітэту Беларусаў Канады
Бэры, Канада, 21 лютага, 2003 г.
Др. Раіса Жук-Грышкевіч
Былы Старшыня ККБК .

## ФІНЛЯНДЫЯ ПРЫМАЕ НОВЫ ЗАКОН АБ МОВАХ

Фінскі парламент аднагалосна прагаласаваў за прыняцце новага закону аб мовах 4 лютага. Новы закон мусіць замяніць стары, прыняты яшчэ ў 1922 г., і разглядаецца як патэнцыйная мадэль для іншых краінаў. Згодна з законам, 300,000 шведскамоўных цяпер маюць права выкарыстоўваць родную мову пры звароце ў дзяржаўныя ўстановы. З іншага боку, што датычна становішча фінамоўных у Швецыі, сумеснае фінска-шведскае даследванне паказала, што яны маюць праблемы ў сферы адукацыі і медыцынскага абслугоўвання. Газета Hufvudstadsbladet паведамляе, што многія фінскамоўныя людзі сталага веку вяртаюцца ў Фінляндыю з-за немагчымасці атрымання медыцынскага абслугоўвання на роднай мове ў Швецыі. Шведскае заканадаўства дае фінам права выкарыстоўваць іх мову ў стасунках з уладамі і судом у правінцыі Нурботэн (Norrbotten), але многія фіны жывуць і на поўдзень ад правінцыі. Рабочая група заклікае мясцовыя рады палепшыць сэрвіс, асабліва ў паўднёвай і цэнтральнай Швецыі, і гэтая прапанова мусіць абмяркоўвацца падчас сустрэчы міністра замежных спраў Фінляндыі і міністра па інтэграцыі Швецыі.

## У выдавецтве ТБК

Чатырнаццаць гадоў дзейнічае Таварыства Беларускай Культуры ў Літве. За гэты перыяд шмат зроблена на карысць Бацькаўшчыны. Адбываліся лёсавызначальныя падзеі, сустрэчы з пісьменнікамі, вучонымі, дзеячамі культуры. Неаднаразова наведвалі Таварыства і беларусы далёкага замежжа – Канады, ЗША, Аўстраліі, Англіі і г.д. Івонка Сурвіла, Барыс Кіт, Лёля Міханюк, Янка Жучка, Янка Жамойцін і другія.

Кожны месяц ладзяцца мерапрыемствы, вандроўкі ў Беларусь. На жаль, час нельга спыніць, шмат адышло ад нас у іншы свет тых, то стаяў ля вытокаў адраджэння, шмат прыйшло.

У 2000 годзе выйшла кніга пра ТБК, гэтым разам – фотаальбом. За перыяд сваёй дзейнасці ТБК выпусціла 12 кніг. Як і папярэднія кнігі фотаальбом будзе ў бібліятэцы ТБМ, для тых, каго зацікавіць.

*Леакадзія Мілаш, г. Вільня.*

## 120 гадоў з дня нараджэння Францішка Аляхновіча



*У сакавіку споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння Францішка Аляхновіча. Матэрыял пра Ф. Аляхновіча чытайце на ст. 4.*

## Гэтага нельга дазволіць!

Вандалы ў г. Бабруйску паўторна разбурылі помнік ахвярам палітычных рэпрэсій. А нядаўна з гэтага горада паступіла паведамленне, што выламаны дзверы і выразаны аўтагенам замкі ў музеі ГА "Беларуская асацыяцы яахвяр палітычных рэпрэсій" Экспанаты для музея збіраліся на працягу 14 гадоў. У іх знаходзіўся памяць і боль мільёнаў людзей – нявінных ахвяр дыктатарскага рэжыму. Сябры трох магілёўскіх арганізацый ахвяр палітычных рэпрэсій вельмі занепакоены лёсам музея і яго бясцэнных матэрыялаў. Такі музей на тэрыторыі Беларусі толькі адзін і захаваць яго – справа гонару нашага народу. Працай у музеі кіравала Ганна Бакач, зараз яе адхілілі ад абавязкаў. Яна прысутнічала на паседжанні нашай арганізацыі ў 2002 г. і падзялілася сваімі ўспамінамі аб сустрэчах з акадэмікам Сахаравым, яго жонкай, пісьменнікам Салжаніцыным. Зараз мы ўсе з хваляваннем назіраем за падзеямі ў г. Бабруйску. Нашы людзі былі "раскулачаны" і засталіся без маёмасці, іх кідалі ў сталінскія ГУЛагі, нямецкія канцлагеры, яны ў барацьбе за праўду прайшлі савецкія псіхушкі і іншыя выпрабаванні. У арганізацыю ўваходзяць і іх родныя (жонкі і дзеці і іншыя), якія знаходзіліся па другі бок кратаў. Дзеці "врагов народа" пад вартай адпраўляліся ў школу, у свой адрас яны чулі пагрозы і здзекі. Зараз усе яны рэабілітаваныя, але на сённяшні дзень адчуваюць подых тых жудасных гадоў. Указам Прэзідэнта прыпынены льготы ахвярам палітычных рэпрэсій і нашы звароты ў розныя інстанцыі не прынеслі патрэбных вынікаў. Мы аказваем людзям сацыяльную, гуманітарную і юрыдычную дапамогу, бо яны знаходзяцца ў цяжкім становішчы. Спроба знішчыць помнік і музей – гэта старанне новых узурпатараў схаваць праўду аб гісторыі нашага народу ад маладога пакалення. Дыктатары ўсіх часоў і народаў аднолькавыя, яны праводзяць палітыку знішчэння і разбурэння. Нашыя людзі добра ведаюць, што тыя, хто сёння разбурае іх музей і помнік заўтра знішчыць помнікі ўдзельнікам Вялікай Айчыннай вайны і воінам – інтэрнацыяналістам. Трэба прыпыніць новую хвалю рэпрэсій супраць памяці.

13 03. 2003 г.

*Старшыня Магілёўскага гарадскога аддзялення грамадскага аб'яднання БААПР Ларыса Шукайла.*



№ 11 (598) 26 САКАВІКА 2003 г. Наша слова

*Да 85-годдзя Беларускай Народнай Рэспублікі*

Лявон Лаўрэш

# Міністр БНР, генерал Кіпрыян (Цыпрыян) Кандратовіч

*(Заканчэнне. Пачатак у папяр. нумарах.)*

**Гародна**

Перад 1-й сусветнай вайной, пасля пераводу ў Варшаўскую акругу, сям'я генерала купіла маёнтак Гародна ў Лідскім павеце: 500 га зямлі і лес, дзе генерал пасяліўся разам з дачкой Верай і жонкай Адай. Маёнтак Гародна мае вялікую і слынную гісторыю

Гародна, ў першай палове XVIII ст. быў спадчыннай уласнасцю княгіні Саламеі Радзівіл з Сапегаў. У 1762 г. яна падаравала яго стрыечнаму унуку Людвіку Скумін-Тышкевічу (памёр у 1809 г.), жанатаму на княгіні Канстанцыіі Панятоўскай (1759-1830). Кароль Станіслаў Аўгуст у Літве вырашыў абаперціся на Тышкевічаў. Адну з сваіх пляменніц, дачку кн. Казіміра Панятоўскага, кароннага падкаморыя, выдаў замуж за Людвіка Тышкевіча, для другой, Тэрэзы, дачкі Андрэя Панятоўскага, Аўстрыйскага фельдмаршала, выбраў Вінцэнта Тышкевіча, літоўскага ардынарыя. Людвік Тышкевіч, паслядоўна займаючы пасад віленскага цівуна, пісара вялікага літоўскага, гетмана польнага літоўскага, падскарбія вялікага літоўскага, а пасля падзелу краіны: губернскага маршалка "действительного статского советника" паступова пашыраў свае ўладанні вакол Гародна, набыўшы Перавозы і Забалаць з фальваркамі. Таксама былі пажалаваны яму каралём староства Эйшыскае, Васілішскае, Каняўскае, Радунскае і інш. Цэнтрам сваёй рэзідэнцыі ён выбраў Гародна. Ягоная зямельная маёмасць, падзеленая на дзве вялікія зоны, складалася з 65 вёсак. Добры гаспадар – ён трымаў свае маёнткі на высокім гаспадарчым узроўні.

Пасля смерці Людвіка Скумін-Тышкевіча ўвесь гэты вялікі маёнтак атрымала ў спадчыну ягоная адзіная дачка Ганна (1779-1867). Яна была замужам за Аляксандрам Патоцкім, а потым за Станіславам Дуніным-Вансоўскім. Тастаментам ад 1867 г. перапісала Гародна сыну ад першага шлюбу М. Патоцкаму (1812-1879) пасля смерці якога, ўсё перайшло ў спадчыну ў 1880 г. графу Аўгусту Патоцкаму. На прыканцы XIX ст. А. Патоцкі прадаў Гародна рускаму генералу Асатураву, ад якога маёнтак перайшоў да графа Ігнаццева, ад яго -- да генерала Кандратовіча. У той час маёнтак складаўся з 23200 дзесяцін зямлі і 15 фальваркаў, але Кандратовічы купілі толькі ягоную частку з Гароднам.





Сядзіба К. Кандратовіча ў Гародна. Здымак 1939 г.





Сядзіба К. Кандратовіча ў Гародна. Здымак 1939 г.



Парк у Гародна. Сучасны выгляд.

Людвік Тышкевіч, жанаты на княжне Канстанцыіі Панятоўскай, дачцы князя Казіміра, подкаморага вялікага каронкага, роднага брата караля Станіслава Аўгуста, у 1775 г. чакаў прыезду караля і як кажа мясцовае паданне на працягу аднаго году пабудаваў, хоць драўляны, але вельмі прыгожы двор у класічным стылі. Сядзіба пабудавана архітэктарам Ф.Эйсенам. Дом звонку не вылучаўся нічым асаблівым, але ў сярэдзіне быў бліскуча і з добрым густам аздоблены. На ўпрыгожванне сядзібы, Тышкевіч выдаткаваў вялікія сумы, запрашаючы мастакоў – дэкаратараў і майстроў, а таксама выпісваючы матэрыялы наўпрост з Парыжа. Кароль Станіслаў Панятоўскі у Гародна так і не прыехаў, аднак двор быў закончаны і не глядзячы на гульню лёсу дастаяў да другой сусветнай вайны.

Патоцкія ў Гародна бывалі эпізадычна і таму з-за недахопу гаспадарчага нагляду і надта паспешнай будоўлі, паступова сцены пачалі нахіляцца, што запатрабавала рамонту. Ад зруйнавання сядзібу выратаваў М. Патоцкі, які аддаў загад адрамантаваць дом і ашаляваць сцены дошкай. Гэта не ўпрыгожыла дом але забяспечыла яму доўгае жыццё. Таксама ў сярэдзіне былі праведзены работы па кансервацыі інтэр'еру.

Сядзібны ансамбль у Гародна стварылі тры будынкі: жылы палац, дом прыслугі, што стаяў насупраць, а з правага боку-мураваная капліца.

Цэнтр кампазіцыі – драўляны на высокім мураваным цокалі 1-павярховы прамавугольны сядзібны дом у стылі класіцызму (1780 г., архітэктар Ш.Цуг). Прасторны аднапавярховы сязібны дом меў франтальна выцягнутыя фасады, па цэнтры якіх вылучаліся рызаліты з чатырохкалоннымі дарычнымі порцікамі, пад галоўны з якіх па шырокіх бакавых пандусах уязжалі карэты. Трохвугольныя франтоны порцікаў запаўнялі пластычныя картушы. Усярэдзіне дом меў парадную анфіладу апартаментаў з вялізнай бальнай залай у цэнтры. У падвале, у які вялі тарцовыя лесвіцы, знаходзіліся гаспадарчыя памяшканні і жыллё прыслугі. Строгі і аскетычны знешні выгляд будынка кантраставаў з багаццем і пышнасцю інтэр'еру дома, аформленага з выкарыстаннем палатняных шпалер, тукавых панэляў, пазалочаных барэльефаў, медальёнаў, гірлянд, кветак, ваз з арнаментным роспісам, кафляных грубак і камінаў, жырандоляў у стылі Людовіка-16 з крышталю з пазалочанамі бронзавымі аправамі. Захаваліся фатаздымкі 1939 г. па якіх можна ўявіць сабе выгляд дома на працягу 19-20 ст. Самы вялікі пакой займала бібліятэка. Яна адначасова служыла памяшканням для гульні ў карты і змяшчала 4 кніжныя шафы і бронзавы, з мармуровымі упрыгожваннямі стол для гульні ў карты, 14 карцін, 4 гіпсавых бюсты. Летам 1944 г. пасля бою аддзела АК з немцамі, акаўцы запалілі палац бо баяліся што ў ім будзе размешчаныа залога надыходзячай Чырвонай арміі.

Вось у гэтым прыгожым маёнтку і прайшлі апошнія гады жыцця беларускага генерала К. Кандратовіча. Пра гэтыя гады распавёў былы памочнік садоўніка маёнтка Струкель Уладіслаў Янавіч ( 1916 г. нар. у 1939 г. жаўнер, абаронца Варшавы).

Сям'я Кандратовічаў вызначалася інтэлегентнасцю і добразычлівасцю да людзей. Сам генерал карыстаўся расейскай, беларускай, польскай мовамі ў побыце, у залежнасці ад абставін. Можна меркаваць, што адносіны з навакольнымі абшарнікамі не складіся і блізкае сяброўства ўсталявалася толькі з уладальнікам сядзібы Малое Мажэйкава інжынерам А. Брахоцкім. Госці прыязджалі з Варшавы і Парыжу, дзе жылі сваякі жонкі Ады. У маёнтку быў аўтамабіль, які бачны на адным з фотаздымкаў. Дачка Вера атрымала хатнюю адукацыю, выйшла замуж за мастака з Англіі, іспанца па паходжанні, Трыстама Рэйнея (Tristam Reiney ). З другой паловы 30-х і да смерці ў 1988 г. жыла ў Англіі.



Магіла дачкі К. Кандратовіча Веры ў парку ў Гародна.

У жніво, жонка Ада сустракала кожныя першыя вазы з падзякай да сялян і келіхам гарэлкі. Сам Струкель, тады яшчэ малады хлопец, атрымліваў заробак у памеры 90 пудоў жыта ў год плюс корм для жывёлы і бульбу, колькі трэба. Асабліва жонка генерала сачыла за прыгажосцю і парадкам у парку, сваім доме і ў дамах, дзе жыла прыслуга. Людзі, якія працавалі ў Кандратовічаў, атрымоўвалі беспрацэнтныя крэдыты на развіццё гаспадаркі, і калі гаспадары бачылі, што грошы ўкладзены з розумам, крэдыт спісваўся..

Апошнія гады Кандратовіч правёў у інвалідным крэсле, хварэючы стратай каардынацыі руху. Ён не мог хадзіць, і жонка наняла сталую прыслугу. Памёр генерал Кандратовіч 31 кастрычніка 1932 г. і быў пахаваны ў тым самым мундзіры, у якім быў паранены у 1905 г. Пахаванне адбылося на **лідскіх праваслаўных могілках.**

17 верасня 1939 г. Ада Кандратовіч вымушана была з'ехаць праз Летуву ў Англію. У жніўні 1997 г. яе ўнук прыязджаў на Беларусь і перазахаваў труну генерала на новых могілках у г. п. Воранава. А урну з часткай праху сваёй маці, якая пражыла лепшыя гады маладосці ў маёнтку Гародна, пахаваў у прыгожым кутку парка, каля былой альтанкі, на крыжы напісана "Вера Киприяновна Рейней (Кондратович) 1912-1988 ". У траўні 2000 г. труна генерала была перазахавана каля царквы ў Воранаве.

Зараз унукі і праўнукі генерала жывуць у Англіі і ЗША.



Магіла сябра Народнага Сакратарыяту БНР генерала ад інфантэрыі Кіпрыяна Кандратовіча ў Воранава. Гэта адзіная магіла міністра БНР на тэрыторыі Беларусі, але сюды пакуль што не пакладзена ні адна кветка ні адным кіраўніком ні адной нацыянальнай партыі

Аўтар выказвае шчырую падзяку святару Мікалаю Семашкевічу, загадчыцы раённай дзіцячай бібліятэкі Людміле Яўнейка, унуку генерала Кандратовіча Джоржу Рэйней, лідскаму краязнаўцуУладзіміру Круцікаву за аказаную дапамогу ў падрыхтоўцы матэрыялу.

**Ад рэдакцыі.**

***Здымкі сябра Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Рады, сябра Народнага Сакратарыяту БНР, генерала ад інфантэрыі Кіпрыяна Антонавіча Кандратовіча былі апублікаваныя ўпершыню.***

# "Ён служыў беларускаму народу"

У сакавіку споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння Францішка Аляхновіча – беларускага драматурга. Нарадзіўся Фр. Аляхновіч у Вільні ў беларускай сям'і збяднелай шляхты.

З 1908 году, пасля вяртання з Польшчы зноў у Вільню, пачынаецца актыўная праца Фр. Аляхновіча ў беларускім адраджэнцкім руху. Ён належаў да жменькі мясцовай інтэлігенцыі, лепшай, якая любіла свой народ і верыла ў яго будучыню. Фр. Аляхновіч разам з У. Буйніцкім, А. Бурбісам, Л. Родзічам арганізаваў першы беларускі тэатр і быў рэжысёрам першага спектакля. За антыцарскі артыкул яго выклікаюць у суд, змушаны хавацца ў Кракаве, потым на Галіччыне. Пасля амністыі ў 1913 годзе вяртаецца ў Вільню, дзе яго ўсё ж такі пасадзілі ў турму. На Лукішках ён напісаў сваю першую п'есу "На Антокалі" У хуткім часе пасля вызвалення з турмы Вільню займаюць кайзераўскія войскі, якія прызнаюць беларускую нацыю і даюць магчымасць весці асветную і культурную працу. У 1926 годзе ў Вільні адчыняецца беларускі клуб, якім апекаваўся Беларускі Камітэт, пры ім стварыўся драматычны гурток, кіраваў ім Фр. Аляхновіч, Ён – рэжысёр і аўтар шматлікіх п'есаў, якія ставіліся ім на сцэне, П'еса "На вёсцы", "Бутрым Няміра", "Манька", "Базылішак", "Калісь" былі ім напісаны за два гады. Тэатральная трупа мела поспех. Юліяна Вітан-Дубейкаўская ў кнізе "Мае ўспаміны" піша: "...Свае п'есы ў восені 1916 г. Аляхновіч ставіў у будынку былога цырку. Камедыя Аляхновіча "На Антокалі" была тады проста шлягер, яе вясёлы змест і трапная характарыстыка віленскага мяшчанства з прадмесця бавілі жыхароў Вільні. І шмат людзей, якія наогул не цікавіліся беларускім рухам, бывалі ў беларускім тэатры.

-- Гэта добры спосаб пашырыць беларускую свядамасць, - гаварыў Іван Луцкевіч. "На Антокалі" ставілі часта. Украінцы былі заўсёды гасцямі Беларускага клуба і тэатра... Далей у вышэйзгаданай кнізе Юліяна піша пра Запусты 1917 года: "У клубе, заместа бліноў і верашчакі, нас кармілі жартамі "на злобу дня". Аляхновіч апранаўся жабраком і сваімі спеўнымі вершамі весяліў публіку:

Ужо я бачу з вашых мін, што
вам хочацца навін!
Раскажу я вам нарэшце ўсё,
што дзеіцца па месце,
І як цяжка стала жыць!
І як цяжка стала жыць!
Хлеб сабакам я кідаў,
толькі грошы я збіраў,
А цяпер за корку хлеба
рад падскочыць аж да неба!
Ой, як цяжка стала жыць!
Ой, як цяжка стала жыць!"

Адначасна ў галоднай Вільні ён зарабляе маляваннем шыльдаў, то служыць у міліцыі, працуе настаўнікам, карэктарам у беларускай газеце "Гоман". У 1918 годзе, калі Менск быў цэнтрам беларускага жыцця, Фр. Аляхновіч пешшу туды дабіраецца, тут была абешчана БНР. Але ж восенню 1919 г. вяртаецца ў Вільню, зноў у гушчы беларускага жыцця ствараецца тэатральная трупа, піша п'есы. У 1921 г. у Вільні засноўваецца Таварыства беларускай школы, Фр. Аляхновіч – адзін з заснавальнікаў, а ў 1924 годзе выдае першае даследаванне па гісторыі беларускага тэатра.



Францішак Аляхновіч

Самы драматычны перыяд у жыцці Аляхновіча, калі ён у 1926 годзе едзе ў Менск на канферэнцыю па рэформе беларускага правапісу. Ён паверыў камуністам і застаўся ў Савецкай Беларусі. На пачатку 1927 г. быў арыштаваны і кінуты ў турму. Сем гадоў адседзеў у бальшавіцкім зняволенні, спачатку ў Менску, а потым – на Салаўках. У 1933 годзе быў абменены на Бр. Тарашкевіча, вярнуўся ў Вільню, з таго часу пісаў "У кінцюрох ГПУ" – першае сведчанне аб дзікім камуністычным рэжыме.

Пройдзе некалькі гадоў і будуць дапытваць Марыяна Пецюкевіча, яшчэ аднаго беларускага дзеяча. Яго абвінавачвалі ў беларускім нацыяналізме за тое, што выступіў з прамовай у гадавіну юбілею Фр. Аляхновіча (60г.). ... Ён падрабязна расказаў пра жыццё і дзейнасць Фр. Аляхновіча. Пажадаў юбіляру, які так многа зрабіў для развіцця беларускага сцэнічнага мастацтва, даў беларускаму тэатру новыя п'есы, у каторых была б паказана барацьба беларускага народа за свае светлыя нацыянальныя ідэалы"... (з артыкула "Беларуская газета" 1 сакавіка 1943, № 25).

У 1945 годзе зноў М.Пецюкевіча абвінавацілі ў тым, што ён па сваёй ініцыятыве прысутнічаў на паховінах Фр. Аляхновіча і там выступаў на мітынгу (сакавік 1944 г.)

Вельмі трапна сказаў Фр. Аляхновіч, вярнуўшыся з Салаўкоў: "Бальшавізм – найстрашнейшы вораг чалавецтва". А ў кнізе "У капцюрох ГПУ" паказаў яго сапраўднае абліччa.

На жаль да гэтага часу не выдадзены ўсе п'есы Фр. Аляхновіча. асобным выданнем. Паспела выйсці ў 1994 г. кніга "У кіпцюрах ГПУ".

Перада мной рэрытэт, п'еса Ф. Аляхновіча "Круці, ня круці – трэба памярці", рэдкія фотаздымкі Аляхновіча з архіва Валеры Малько.





У ТБК адзначылі юбілей, наведалі магілу драматурга на Росах. Да Аляхновіча не зарастае сцежка: прыходзяць беларусы – віленчукі, вучні школы, госці з Беларусі.

*Леакадзія Мілаш, г. Вільня.*

# І песню родную люблю...

Пад такім назовам не гэтак даўно ў Баранавічах з эмблемай Таварыства беларускай мовы на вокладцы выйшаў невялікі, але досыць змястоўны песенны зборнічак. Для ягонага назову ўзяты радок з славутай песні "Люблю наш край" на словы Канстанцыі Буйло. З гэтай песні і пачынаецца спеўнік. Народжаная юнай Буйлянкай, яна даўно сталася духоўным гімнам беларусаў. Шчымліва сардэчная, яна кранае самыя патаемныя струны кожнага беларуса. Гэта несмяротная песня. Яе нашы людзі будуць спяваць нават тады, калі Расія са згоды нашых манкуртаў пазбавіць нас дзяржаўнасці. Ёй наканавана вечнае жыццё, гэтак жа, як і астатнім, уключаным у баранавіцкі спеўнік. А іх тут пад трыццаць. Гэта, як ужо згадвалася, і "Люблю наш край", "Колькі ў небе зорак", "Ручнікі", "Не шукай", "Зялёная вішня", "Туман ярам", "Касіў Ясь канюшыну", "Ой, сівы конь бяжыць", "І туды гара", "Ой, аралі хлопцы ніву", "Зорка Венера", "Купалінка". Мастацкі густ укладальніка спеўніка, за выключэннем адной песні – "Надзенька", як бачым, адметны. Ён ведае, што найперш трэба сённяшняму беларусу. Усе песні, уключаныя ім у спеўнік, часта можна пачуць у канцэртных праграмах, з радыйнага эфіру, за бяседным сталом.





Некалі Францішак Багушэвіч казаў: "Той люд жыве, што свае песьні мае!"... І гэта праўда. Наш народ мае тысячы песняў. Значыцца, ён і жывы, жыве.

Завяршае зборнік наша фінальна-рытуальная песня "Бывайце здаровы". Гэтая песня – найвялікшы духоўны скарб нашага народа. Мусіць, ні ў аднаго народа свету няма такой песні. Яна кульмінацыйная. Менавіта гэтай песняй заўсёды ў беларусаў заканчваецца кожная гасціна, кожная сябрына, усялякае растанне.

Спеўнік "І песню родную люблю я", выдадзены ў Баранавічах, перакананы, знойдзе сваіх прыхільнікаў. Дык жа спявайма – у працы і ў застоллі, ў радасці і бядзе. Беларусы ж здавён казалі: "Плакаў, плакаў – усё аднакаў, а як стаў спяваць – стаў бог даваць!"

*Ул. Содаль.*

# "ТВОРЧАСЦЬ ПРЫСВЯЧАЮ ПАЛЕСКАМУ КРАЮ"

Так называецца адносна невялікі па аб'ёму зборнік вершаў, прыпевак на фальклорныя тэмы, гумарыстычных твораў, падпевак да народных танцаў Праскоўі Пракапенка. Зборнік выйшаў з друку ў 1998 годзе ў выд-ве "Белы вецер" г. Мазыра. Ва ўступным слове журналістка "Гомельскай праўды" Тамара Круценка коратка расказала пра сустрэчу з цікавай жанчынай, якая на працягу сарака гадоў працы ў школе прывівала любоў вучняў да матчынай мовы.

Праскоўя Пракапенка – аўтар шматлікіх вершаў на розную тэматыку. Яна і сёння не губляе аптымізму, негледзячы на сталы ўзрост, зберагае сваё адметнае, беларускае. Піша і своеасаблівыя песенные абразкі вясельнай лірыкі, вяснянак. Яны гучаць у канцэртах вакальнага ансамбля "Крынічка".

З'яўляліся яе вершы і раней на старонках "Калінкавіцкіх навін", "Гомельскай праўды", "Настаўніцкай газеты". Яе верш "Пачутае ў Аўцюках" вельмі трапна перадаў асаблівасці вясковага жаночага "савету" і быў прызнаны лепшым на Усебеларускім фестывалі гумару ў Аўцюках у 1997 годзе. Болей таго, хочацца дадаць, што гэта цікавая жанчына, не ведаючы нотнай граматы, амаль на кожны з сваіх вершаў напявае мелодыю. Многія з мелодый пакладзены на ноты прафесійнымі музыкантамі. Некалькі гадоў таму, калі я стала жыхаркай г. Калінкавічы, мне давялося пазнаёміцца з мясцовай паэткай Праскоўяй Пракапенка і запрасіць яе на сустрэчу са студэнтамі Мазырскага педінстытута. Свае вершы паэтка часта чытае вучням агульнаадукацыйных школ горада і раёна. У 2002 г. грамадзяне нашай краіны шырока святкавалі 120-годдзе з дня нараджэння славутых беларускіх песняроў Янкі Купалы і Якуба Коласа, свята, якое не магло не ўсхваляваць сапраўдную патрыётку роднага краю. На ўрачыстасцях з нагоды гэтае даты Праскоўя Пракапенка чытала свае творы: "Да 120-годдзя з дня нараджэння слынных сыноў Беларусі" і "Малітву", якія я прапаную газеце.. Дарэчы, паэтка пачала падпісвацца на газету "Наша слова".

*Людміла Піскун.*

# "АЛЕСЬ АРУКШ: СПРОБА ІДЭНТЫФІКАЦЫІ"

Так называецца даклад, які падрыхтавала да навукова-практычнай канферэнцыі школьнікаў вучаніца 10 класа СШ № 4 г. Жодзіна Бяззубік Вольга. Канферэнцыя пройдзе ў горадзе, як штогод, напрыканцы сакавіка. Звычайна вельмі актыўна ідзе работа на секцыі беларускай мовы і літаратуры. А вучні і настаўнікі чацвёртай школы традыцыйна аддаюць перавагу даследаванню сваёй "малой" радзімы. Бо так жа, як і маці, і родная мова, радзіма ў кожнага з нас адна, наканаваная нам лёсам.

У школе часта ладзяцца экскурсіі. Выхаванцы адной са старэйшых школ горада пабывалі на радзіме Якуба Коласа, у Купалаўскай Вязынцы, у "горадзе без тралейбусаў" Уладзіміра Караткевіча. Адзін з любімейшых турыстычных маршрутаў – старажытны Полацк. Кожны школьнік сёння ведае Усяслава Чарадзея, Ефрасіннню Полацкую, Францішка Скарыну. Але далёка не кожнаму з іх вядома, што літаратурны ландшафт сучаснага Полацка немагчыма ўявіць без паэта Алеся Аркуша, якога ў нашым горадзе больш ведаюць як Аляксандра Козіка. Аляксандр Барысавіч нарадзіўся ў Жодзіне, атрымаў тут сярэднюю адукацыю, працаваў на БелАЗе. Пасля заканчэння наргаса пераехаў у Полацк. Сувязі з родным горадам ніколі не парываў.

Папулярызацыі творчасці паэта-земляка і прысвечана праца жодзінскай школьніцы.

*Згрундо Ірына, г. Жодзіна.*

Рэдактар Станіслаў Суднік

Заснавальнік:
ТБМ імя Францішка Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі:
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
Адрас рэдакцыі:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Адрас для паштовых адпраўленняў:
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
E-mail: ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

Рэдакцыйная калегія:
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 24. 03. 2003 г.
Наклад 2300 асобнікаў. Замова № 883.
Падпісны індэкс: 63865.
Кошт падпіскі: 1 мес.- 458 руб., 3 мес.- 1374 руб.
Кошт у розніцу: 120 руб.